 


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 21 (273) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 21 МАЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.




БЕЛАСТОК — вул. Кілінскага. Фота — В. Касакоўскі.

26 МАЯ—ДЗЕНЬ МАЦІ

## МАЦІ

Кукарэкала поўнач пеўнямі, —
То не казка і не быліна, —
Рукі матчыны ў мыльнай пене
Нам сарочкі мылі,
бялілі...
Яе рукі занятыя вечна...
Ранкам стоячы на парозе
гусям,
што, як баяры на веча,
гагаталі,
сыпала проса.
Вёдры несла, як вока, поўныя
ад ракі
сцежкай, ветрам падмеценай.
І крануць яе пальцы полымя,
пахіснуўшыся з печы,
мецілa.
Мы з паперы рабілі «караблікі».
А калі праглі матчынай ласкі,
Ёй на рукі ўтрох карабкаліся,
як на рукі свае
уласныя.
Маці справы ўсе турбавалі.
Ледзь не плакалі —
крыўда цяжкая.
Па чарзе мы патрабавалі,
Каб яшчэ на руках пагушкала.
І яна аж пад столь узнімала...
У хаце рутавым пахла венікам,
На руках маці лета ляжала,
Тое лета пасляваеннае.
Яна рвала ў полі свірэпіцу
і збірала на паліва трэскі.
Нашай маці далоні парэпаныя,
Нашай маці далоні патрэсканыя.
Пабялелі на сонцы вейкі.
Ёй заўсёды шчасця гадаецца...
Нашы маці, планету спрадвеку вы
на руках
і ў калысках гайдаеце.

Васіль МАКАРЭВІЧ

## ЖЫЦЦЁ Ў НАС ТАКОЕ

— М. СВАЯК —

Уздоўж шашы, якая вядзе з Бельска да Нарвы, раскінулася вёска Кленікі.

Кленікі — вёска вялікая. Шмат тут ёсць добрых і дрэнных спраў. Да найбольшых дасягненняў вёскі трэба аднесці электрыфікацыю і радыёфанізацыю, зацікаўленне новай агратэхнікай і ўзростам матэрыяльнага ўзроўню сялян. Вельмі прыемным з'яўляецца і тое, што многа ўвагі сяляне ў Кленіках удзяляюць асабістай гігіене, чысціні і парадку ў хатах. Зайдзіце, напрыклад, у хату Нікіфара Карчэўскага. Вока цешыць тое, што там вельмі прыгожа і чыста ў хаце, а гаспадары яе ветлівыя людзі. І такіх хат у Кленіках многа.

Многа ў вёсцы сумленных, прыкладных людзей, якія не крывяць душою. Да іх трэба аднесці перш за ўсё Івана Асіпюка — перадавіка аховы расліннасці, Якіма Шэшку — сакратара грамадскага камітэта Аб'яднанага людовага страннiцтва, Ціхона Трафімюка — былога салдата арміі Будзённага, Валодзю Ваўранюка, які многа цікавіцца навейшымі метадамі апрацоўкі зямлі.

### ДОБРАЯ З'ЯВА

У народзе кажуць так: хто не ўмее грош зберагчы, той не зберажэ і мільёна. Вельмі мудрая прымаўка. Бо ўжо так ёсць у жыцці, што не тыя многа маюць, што многа зарабляюць, а толькі тыя, якія разумна сваімі грашмі гаспадараць.

І ў Кленіках многія сяляне на культуру асабістых выдаткаў звяртаюць шмат увагі. Больш таго. Апошнімі гадамі сяляне зразумелі, што грошы не трэба перахоўваць у панчосе, а складаць іх на кніжку ашчаднасці. Складаць грошы на кніжку становіцца гонарам многіх сялян. Зараз у Кленіках, як сцвярджае кіраўнік пошты, звыш 40 чалавек маюць на кніжках сур'ёзныя сумы грошай. Гэта таксама сведчыць аб тым, што ў Кленіках пераважнай большасці гаспадароў жывецца вельмі добра.

### БОЛЬШ УВАГІ ДЗЕЦЯМ

Ёсць у Кленіках і такія людзі, якім жывецца цяжкавата. Вось, напрыклад, у хаце Ольгі Шэшка няма дастатку. Не шанцуе ёй у мізэрнай гаспадарцы. Нядаўна паздыхалі свінні. Доўга не было ў яе каровы. Нялёгка жывецца сям'і Васіля Дэрпы і некаторым іншым гаспадарам. І гэтае цяжкае становішча найбольш балюча пераносяць іх дзеці, якія ходзяць да школы. У школу часта прыязджае кіно, альбо арганізуюцца мастацкія выступленні прыезджых калектываў. І толькі таму, што няма ў бацькоў грошай, дзеці іх пакрыўджаныя, не бываюць на гэтых мерапрыемствах.

Якая жыццёвая несправядлівасць! Яна ўжо з ранніх год дае адчуваць сілу грошай. Пара ўжо школьным уладам, усім настаўнікам і бацькоўскім камітэтам падумаць аб тым, каб з-за грошай не рабілася дзецям вялікай крыўды.

### ТОЕ, ШТО ГАНЬБІЦЬ

Яшчэ цяжэйшыя перажыванні ў тых школьнікаў, у якіх бацькі п'яніцы. У гэтым вы-

(Працяг на стар. 5)



Выступае з дакладам «Савецка-польская дружба» сакратар Мінскага абкома КП Беларусі намеснік старшыні Беларускага аддзела Таварыства савецка-польскай дружбы тав. С. Прытыцкі.

ВЕСТКІ з БССР

## СВЯТА ДРУЖБЫ

З выпадку 16-й гадавіны Дагавору аб дружбе, узаемнай дапамозе і пасляваенным супрацоўніцтве, 20 красавіка 1961 года ў Мінску, у Палацы культуры прафсаюзаў, адбыўся вечар савецка - польскай дружбы. Вечар быў арганізаваны Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, Беларускім і Мінскім абласным аддзеламі Таварыства савецка - польскай дружбы.

(Працяг на стар. 3)



У залі вечара.

 

# ВЕНЕРА ПЛАНЕТА ЗАГАДАК

Хто з нас не захапляўся надосвітку ці пасля захаду Сонца прыгожай зоркай — планетай Венера! Сваёй прыгажосцю яна заўсёды прыцягвала ўвагу чалавека. Яшчэ большую цікавасць выклікае Венера ў нас цяпер, калі да яе 12 лютага 1961 года накіраваўся савецкі міжпланетны карабель.

Цэнтрам сонечнай сістэмы, як вядома, з'яўляецца Сонца—велізарны вогненны шар, тэмпература нават на паверхні якога складае шэсць тысяч градусаў. Па свайму аб'ёму Сонца большае, чым Зямля, у 1 300 000 разоў, а па масе — у 330 000 разоў. Дзякуючы сваёй велізарнай масе, Сонца развівае магутнае прыцягненне, якое і ўтрымлівае планеты сонечнай сістэмы на іх арбітах.

Блізкэйшая да Сонца планета Меркурый размешчана ад яго на адлегласці прыкладна 58 мільёнаў кіламетраў. Затым, на адлегласці 108 мільёнаў кіламетраў ад Сонца знаходзіцца планета Венера. Потым ідзе Зямля, аддалена ад Сонца на 150 мільёнаў кіламетраў. Далей размешчаны паслядоўна планеты Марс, Юпітэр, Сатурн, Уран, Нептун і нарэшце Плутон (амаль за 6 мільярдаў кіламетраў ад Сонца).

Венера робіць поўны абарот вакол Сонца за 225 сутак, а Зямля — за 365,25 сутак. Паколькі Венера рухаецца хутчэй, чым Зямля, то, пераганяючы Зямлю, яна можа апынуцца або злева ад Сонца, або на адной лініі з Зямлёй і Сонцам, або справа ад Сонца. Калі Венера знаходзіцца злева ад Сонца, мы яе назіраем вечарам. Надосвітку ж Венеру відаць тады, калі яна размешчана справа ад Сонца. Так, напрыклад, у студзені мы маглі назіраць Венеру вечарам на працягу чатырох гадзін пасля захаду Сонца, прычым яркасць яе была настолькі вялікая, што перавышала бляск самых вялікіх зорак. Адлегласць Венеры ад Зямлі складала тады каля 100 мільёнаў кіламетраў.

Пачынаючы з 29 студзеня, Венера паступова набліжаецца да Зямлі. У пачатку красавіка яна будзе на адной лініі з Зямлёй і Сонцам. І хоць адлегласць да яе складзе толькі 40 мільёнаў кіламетраў, убачыць Венеру мы не зможам, бо яна будзе губляцца ў сонечных праменнях.

Увесь красавік і пазней, да сярэдзіны жніўня, Венера будзе ўжо справа ад Сонца, і бачыць яе можна будзе толькі раніцай.

Пачынаючы з красавіка, Венера будзе аддаляцца ад нас, значыць, і ад міжпланетнай станцыі, якая рухаецца да яе. Зразумела, што скорасць станцыі павінна перавышаць скорасць Венеры з тым, каб дагнаць планету. Калі ж пад уздзеяннем якіх-небудзь прычын траекторыя станцыі адхіліцца ад разліковай, то станцыя пройдзе міма Венеры і стане штучнай планетай сонечнай сістэмы.

Венера адносіцца да планет, назіранне за якімі звязана з вялікімі цяжкасцямі. Справа ў тым, што яна ўвесь час ахутана шчыльным покрывам воблакаў, якія не дазваляюць бачыць яе паверхню. І ўсё ж вучоныя, карыстаючыся рознымі ўскоснымі спосабамі, многае даведаліся аб гэтай планеце.

Да гэтага часу яшчэ дакладна не вызначан перыяд абарачэння Венеры вакол сваёй восі. Большасць вучоных лічыць, што Венера абарачаецца вельмі марудна. Магчыма, што яе поўны абарот адбываецца нават больш чым за 30 сутак.

Тэмпературны рэжым паверхні планеты таксама яшчэ не высветлен. Ва ўсякім разе тэмпература там павінна быць вышэйшая, чым у нас на экватары, з вялікімі ваганнямі паміж днём і ноччу.

Адным словам, вельмі многа таямніц скрывае ад нас Венера. І можна ўявіць, з якой нецярплівасцю чакаюць вучоныя звестак з борта міжпланетнай станцыі.



**Аўтаматычная міжпланетная станцыя (выгляд спераду)**

АБ ЧЫМ ДОБРЫ ГАСПАДАР ВЕДАЦЬ ПАВІНЕН

# РАСЛІНЫ ХОЧУЦЬ ЕСЦІ

Недахоп тых ці іншых мінеральных рэчываў у глебе бывае прычынай дрэннага росту раслін і розных хвароб у іх.

Калі не хапае **азоту**, верхнія часткі расліны перастаюць расці, змяншаецца лік і велічыня пладоў расліны. Корань развіваецца лепш ад ладыгі і лістоў. Расліна робіцца штыўнай і цвёрдай, а лісты ясназялёнымі, потым жоўтымі. Плады такой расліны заўчасна паспяваюць, але марнейшыя.

Калі не хапае **патасу** (калій) — расліна на пачатку на выгляд здаровая — зялёная і свежая. Аднак пасля некаторага часу перастае расці, асабліва гамуецца рост новых галінак і карэнняў на грубасць, робяцца плямы на лістах, урэшце лісце жоўкне, брунатнее і засыхае. Патас асабліва патрэбны акаповым раслінам. Расліна, якой не хапае патасу, лёгка паддаецца розным хваробам.

**Вапна** — знішчае атрутныя рэчывы, якія знаходзяцца ў глебе і ў самых раслінах. Адсутнасць вапна даводзіць да таго, што карэнні расліны пакрываюцца слюзам і гніюць.

Пры недахопе **фосфару** лісце жоўкне, пачынаючы ад берагоў. Асабліва церпяць ад недахопу фосфару кветкі расліны — яны не могуць добра развіцца. Таму ўгнаенне фосфарам так важна пры гадоўлі раслін на насенне.

Пры недахопе **магніту і жалеза** лісце робіцца белажоўтае.

НАРОДНАЯ МЕДЫЦЫНА

# Лекавыя травы

**Святаяннік звычайны.** Беларуская назва: святаяннік; руская: зверабой.

Шматгадовая травяністая расліна. Яе сцяблы адрастаюць штогод. Яны простыя, у верхняй частцы галіністыя, дасягаюць 30—100 см. увышыню. Лісце авальнае, тупаватае, з кропкамі, што свецяцца на сонцы. Кветкі святаянніка, расцёртыя ў пальцах, афарбоўваюць іх у фіялетавы колер. Цвіце гэтая расліна з канца чэрвеня ўсё лета; кветкі жоўтыя.

Расце святаяннік на межах, пры дарогах, на лясных пасадках, сухіх лугах. Распаўсюджаны ўсюды.

Збіраюць яго ў час цвіцення, зразаючы верхнюю частку сцяблоў з лісцем.

Гэтая расліна на арганізм чалавека дзейнічае як вяжучае, узбуджае апетыт, паляпшае дзейнасць кішэчніка, загойвае раны, дзейнічае як мачагоннае.

У навуковай медыцыне прымяняецца настойка і экстракт са святаянніка ў тых жа выпадках, што і ў народнай медыцыне.

Адзін святаяннік прымяняецца пры лячэнні ран і язваў, якія дрэнна загойваюцца. Да іх прыкладваецца анучка, змочаная ў масле, у якім менш трох тыдняў настойваліся кветкі святаянніка. Кветак 2 часткі, масла 4 часткі па вазе. Масла лепш мігдальнае, а калі яго няма — бяруць сланечнікавы алей.

Шклянка чаю з травы святаянніка, выпітая перад сном, засцерагае дзіця ад міжвольнага мачэння ў пасцелі.

Каб выдаліць дрэнны пах з роту і ўмацаваць дзёсны, рот палошчуць моцным напарам святаянніка. Некаторыя для гэтага карыстаюцца простым водным настоем з гэтай расліны.



Парэзаную траву святаянніка захоўваюць у драўлянай скрыначцы, абклеенай унутры паперай.

# НЕКАЛЬКІ ПАРАД

■ Каб асвяжыць мяса або рыбу, якія пачалі псавацца, на дно каструлі кладуць кавалак драўнянага вугалю велічынёй прыкладна з курынае яйка. Мяса наразаюць на кавалкі, добра прамываюць у халоднай вадзе, кладуць у каструлю з вугалем і заліваюць халоднай вадой. Вады наліваюць столькі, каб яна пакрыла мяса і пакідаюць стаяць 2—3 гадзіны, пасля чаго вугаль вымаюць і мяса вараць у той жа вадзе.

■ Пах выкіпеўшага на печ малака непрыемны і хутка распаўсюджваецца па ўсяму жыллю. Накрыйце выкіпеўшае малако вільготнай газетай і папырскайце яе зверху воцатам. Воцат поўнасцю паглынае пах згарэўшага малака.

■ Калі хочуць захаваць белай скуру паравых куранят і курэй, то перад прыгатаваннем трэба працерці іх лімонным сокам або растворам лімоннай кіслаты.

Кулінарыя

# ДРОБНАЯ РЫБА ТУШАНАЯ З АГАРОДНІНАЙ

1 кг. дробнай рыбы (ёрш, акуні, пяскар, плотка, бычок і іншыя) ачысціць ад лускі, і, аддзяліўшы галовы, выпатрашыце, прамыйце і пакладзіце ў друшляк. Калі вада сцячэ, пасыпце рыбу соллю, перцам і перамяшайце. Моркву і рэпчатую цыбулю (па 200 г.) ачысціце, вымыйце, нашаткуйце саломкай і крыху падсмажце ў 100 г. сланечнікавага алею, затым дабаўце паўшклянкі тамату - пюрэ, лаўровы ліст і пракіпяціце.

Пакладзіце рыбу радамі ў каструлю, перакладваючы кожны рад прыгатаванай сумессю гародніны, заліце сталавым воцатам, разведзеным такой жа колькасцю вады (па паўшклянкі), і тушыце тры, або тры з палавінай гадзіны.

Прыгатаваная такім чынам рыба падаецца як халодная закуска і можа доўга захоўвацца ў прахладным месцы.

